# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (460) | ГОД IX | 20 СНЕЖНЯ | ЦАНА 60 гр.



Так званыя БЛЁКІ — гэта ўжо першыя ластаўкі праўдзіва гарадскога будаўніцтва ў драўляным Міхалове. Цяпер будуецца тут шмат і, трэба сказаць, што прыгожа.

Фота — С. Я.

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# СЯГНУЦЬ ГЛЫБЕЙ

Пад канец лістапада г. г. адбылося ў Варшаве другое пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Было яно першым рабочым пасяджэннем пасля IV-га З'езда.

У сувязі з гэтым сёння папрасілі мы да сябе ў госці эканамічнага сакратара Ваяводскага Камітэта ў Беластоку таварыша **Сэргюша РУБЧЭЎСКАГА.**

**Ніва:** Якія заданні перад партыяй і народам ставіць II Пленум?

**Сакратар:** Асноўныя заданні акрэсліў ужо IV-ты з'езд партыі.

**Ніва:** А Пленум?

**Сакратар:** II Пленум Цэнтральнага Камітэта нашай партыі заняўся абмяркоўкай ажыццяўлення з'ездаўскіх пастаноў. Новым элементам у працы Цэнтральнага Камітэта лічыць несумненна трэба тое, што Пленум сканцэнтраваў сваю ўвагу на выніках пасляз'ездаўскай працы аднаго ваяводства, а менавіта самай буйнай у краіне — катавіцкай партыйнай арганізацыі. На другім Пленуме многа гаварылася аб пастаянных пошуках розных крыніц гаспадарчых рэзерваў, абмяркоўваліся навейшыя метады планавання і арганізацыі прадукцыі. Пастанова ў справе заданняў для партыйных арганізацый і ўстаноў адносна выяўленняў прадукцыйных рэзерваў і ўдасканальвання метадаў планавання, якую прыняў II Пленум, забавязвае нас яшчэ больш шчыра і сумленна аднесціся да гэтых праблем.

**Ніва:** Вось менавіта — дзе ў нас, на Беласточчыне, шукаць новых гаспадарчых рэзерваў?

**Сакратар:** Шукаць усюды там, дзе штосьці чалавек робіць. На вёсцы, напрыклад, усё яшчэ многія соткі гектараў зямлі ляжаць аблогамі, а тысячы сялян гаспадараць першабытнымі метадамі, вядуць амаль натуральную гаспадарку. Такім чынам прападаюць у нас многія тысячы тон як жа ж патрэбнага збожжа, якое вымушаны мы купляць за граніцай. У гарадах знайсці можна рэзервы ў арганізацыі прадукцыі, у спосабах кіравання гаспадаркай, а таксама невялікія магчымасці дае перапрацоўка метадаў прадукцыі. Вось для прыкладу прадукцыйная здольнасць мяснога камбіната ў Беластоку доўгі час была выкарыстана ледзь напалавіну, а ў тым часе адвозілі мы многія тоны жывёлы да другіх раёнаў краіны. Цяпер ужо ўдалося нам поўнасцю забяспечыць сыравінай гэты мясны завод. Нядаўна ў Ломжы пачала працаваць новая крухмальня. Многа тон бульбы застанецца тады ў межах нашага ваяводства. Дамагаемся ад цэнтральных улад, каб пабудаваць цукровы завод у Лапах. Гэта таксама спрыяла б выкарыстанню мясцовай сыравіны. На некаторых заводах можна яшчэ наладзіць дадатковыя змены. З нашага падліку вынікае, што такім чынам толькі ў тэкстыльнай прамысловасці ваяводства маглі б мы стварыць магчымасць працы і заработку для адной тысячы чалавек. Нельга таксама забываць аб сумленным, гаспадарскім падыходзе рабочых да сваёй працы. Пераканаўча сведчаць аб гэтым вынікі даз'ездаўскай абмяркоўкі партыйных тэзісаў. Сярод многіх тысяч налічылі мы аж 3 тысячы асабліва каштоўных прапаноў. Адны з іх ужо цяпер рэалізуюцца, другія войдуць у план на наступны 1965 год, а яшчэ іншыя (каля дзвюхсот) патрабуюць значных капіталаўкладанняў. Іх ажыццяўленне, на жаль, змушаны мы адлажыць да наступнай пяцігодкі.

**Ніва:** У пастанове II Пленума гаворыцца таксама пра ўдасканальванне метадаў планавання

**Сакратар:** Так, праблема вельмі істотная. Шырока разглядаліся на Пленуме дасягненні і вопыт у гэтай галіне катавіцкай партыйнай арганізацыі. Ваяводскі Камітэт у Катавіцах праводзіў многія сустрэчы з

(Працяг на стар. 4)

ЗІМА.

# ДАРМАЕДКА

**Гэты аграном не агітаваў.**

**Бачылі яго першы раз, прыехаў ён з павета. Наш Ванька — аграном таксама слухаў яго, усе слухалі.**

**Гэтага агранома з павета солтыс называў заатэхнікам. Так называюцца аграномы ад гадоўлі. Наш Ванька - аграном не знаецца на гадоўлі, умее толькі агітаваць за купляю трактара і плугоў. Кажа: — Коні непатрэбны, яны дармаеды!**

**Хто яго ведае, мо' і ён разумна талкуе, але дзе купіць таго трактара, калі аднаго разу хацелі і не купілі. Адказалі, што няма іх — трэба чакаць.**

**Аграном з павета, значыць, заатэхнік расказваў слушныя рэчы. А найбольш спадабалася бацьку тое, што ў гаспадарцы ўсё павінна аплачвацца. — Трэба лічыць!**

**Бацька не ўмеў лічыць алоўкам, а мне не верыў. Западозрыў, што карова не дае даходу, але не меў пэўнасці.**

**Снедаючы, бацька сказаў:**

**— Больш з'есць, чым малака дасць.**

**Было ўжо вядома, куды бацька гне. Далічыўся і без алоўка.**

**Адазвалася маці:**

**— Не кажы так, заўсёды гэтых пару літраў будзе ў хаце.**

**— Дармаедка! — пачырванеў бацька.**

**«Дармаедку» прадалі да Падляўкова. Узамен набралі парасят для кантрактацыі.**

**Бацька абдумаў свой рахунак і цяпер хадзіў задаволены. Нават вырваў са старога сшытка табліцу множання, штосьці слініў на паперы хімічным алоўкам. Маці глядзела смутнымі вачыма, адварочвалася да пліты і хавала нанач у печ гаршчкі.**

**Была злосная:**

**— Язык чорны, як у сабакі, — дапякла бацьку, які лізаў хімічны аловак.**

**Яна ніяк не магла зразумець, што гаспадарка засталася без каровы. — Чыстае баламуцтва.**

**Бацька незлюбіў «точку» каля акна за тое, што перашкаджала яму лічыць — яна напсрамену грае або бубніць. Маці маўчала, нічога не сказала нат' тады, калі бацька папродаў сена яшчэ на пракосах. Куплялі гаспадары з пад Нарвы, таргаваліся і бажыліся — зайздросцілі, што нашы лугі зменіяраваныя, буйныя. Бацька хваліў меліярацыю.**

(Працяг на стар. 5)



